№ 5 травень 2013 г.

*О, Беларусь, мая шыпшына,*
*Зялёны ліст, чырвоны цвет!*
*У ветры дзікім не загінеш,*
*Чарнобылем не зарасцеш.*
***Ул. Дубоўка***

# Шыпшына

***Бюлетэнь Пастаўскай раённай арганізацыі***
***Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны***

**… Кажаш, што магілы зараслі?**
**Памаўчы са мной па-беларуску.**
*Яўгенія Янішчыц*

## *У НУМАРЫ:*













# НАШЫ НАВІНЫ

## ДАПАМОЖАМ ТБМ !

Паважаныя сябры і прыхільнікі роднай беларускай мовы! Да Вас звяртаецца сакратарыят ТБМ з просьбаю аб дапамозе.

Паводле новага Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, з 1 красавіка гэтага года кошт арэнды за сядзібу ТБМ павысіўся на 60 % і дасягнуў 9 мільёнаў 801 тысяча 600 руб. у месяц. Акрамя таго, мы мусім аплачваць тэлефон, камунальныя і паштовыя паслугі.

Нягледзячы на шматлікія звароты грамадзян Беларусі ў Адміністрацыю і Кіраўніцтва спраў Прэзідэнта з просьбай пакінуць для ТБМ ільготны кошт арэнды, мы не атрымалі станоўчага адказу.

Для таго, каб утрымаць сядзібу арганізацыі ў Мінску ў гэтых умовах, нам неабходна штомесяц збіраць 10 мільёнаў беларускіх рублёў у выглядзе ахвяраванняў і складак сяброў і прыхільнікаў ТБМ. Калі пяць тысяч прыхільнікаў роднай мовы ахвяруюць штомесяц усяго дзве тысячы рублёў, наша арганізацыя не загіне і ў каторы раз прадэманструе сённяшняй уладзе сваю годнасць. Імёны асобаў, якія ахвяруюць пасільныя сродкі на падтрымку дзейнасці ТБМ, будуць надрукаваныя ў газеце "Наша слова", што стане гістарычным сведчаннем змагання грамадзян за права "людзьмі звацца".

Мы просім беларускіх журналістаў праявіць салідарнасць і давесці наш заклік да грамадзян Беларусі.

Зварот прыняты на пасяджэнні сакратарыята ТБМ

25 красавіка 2013 г.

***

16 траўня ў пастаўскім прафесійным каледжы адбылася літаратурна-музычная вечарына «Пастаўшчына літаратурная», якую падрыхтавала бібліятэкар гэтай установы адукацыі Алёна Пракоф"ева. У мерапрыемстве бралі ўдзел паэт і краязнаўца Ігар Пракаповіч, кампазітар і выканаўца песень Людміла Логінава, удава настаўніка і паэта Леаніда Трубача Святлана.

***

18 траўня ў Пастаўскім краязнаўчым музеі адбылася прэзентацыя кнігі Ігара Пракаповіча і Вадзіма Шышко "1812. Вайна на Пастаўшчыне". Гэта імпрэза адкрывала і выставу, якая падрыхтавана ў музеі па матэрыялах вайны 1812 года.

***

24 траўня ў Мінску на сядзібе Таварыства беларускай мовы адбылася сустрэча старшыні раённай Рады ТБМ І. Пракаповіча са старшынёй рэспубліканскай Рады ТБМ А. Трусавым і яго намесніцай А. Анісім, падчас якой былі абмеркаваны некаторыя пытанні дзейнасці арганізацыі.

***

30 траўня для сяброў ТБМ была праведзена экскурсія-вандроўка па цэнтральнай (Рынкавай) плошчы Паставаў. Арганізавалі яе навуковы супрацоўнік пастаўскага раённага краязнаўчага музея Вадзім Шышко і бібліятэкар пастаўскай дзіцячай бібліятэкі Людміла Сяменас.

# НАШ КАЛЯНДАР



80 гадоў назад, 22 траўня 1933 года ў вёсцы Старыя Габы Мядзельскага раёна нарадзілася Захарэвіч Ніна Маркаўна, беларуская настаўніца, паэтэса. Усё жыццё працавала ў сістэме адукацыі Мядзельскага і Пастаўскага раёнаў на розных пасадах (настаўніца, загадчыца дзіцячага садка, дырэктар школы, старшыня райкама прафсаюза). Выдала кнігі вершаў "Дарыце маці кветкі", "Жнівеньскі вецер", "Бэзавы цвет". Лаўрэат фестывалю гумару ў Аўцюках. Пераможца конкурсаў прыпевак газеты "Звязда". Шэраг вершаў пакладзены на музыку. Памерла 11.10.2005 г.

**Аліна Латыш**

# САМАЯ МОЦНАЯ ПОВЯЗЬ

*Нацыя… Народ…*
*А мова памірае,*
*І яму ёй капае*
*На гарадзішчы крот…*
*І.Пракаповіч*

У свята Дзяды і на Радаўніцу мы асабліва часта нагадваем сваіх памерлых, молімся за іх, успамінаем аб той повязі, якая злучае нас з імі. Не толькі частка жыцця, пражытая разам, не толькі рысы твару або асаблівасці характараў яднаюць нас. Есць яшчэ адна наймацнейшая і найважнейшая повязь, якую нельга ўбачыць, памацаць, як нешта рэальнае, - гэта наша родная беларуская мова. Яна звязвае нас у адно цэлае – тых, хто жыве, і тых, хто адышоў да вечнасці, і хацела б злучыць з тымі, хто будзе пасля нас.

Жыў у адным сяле заможны селянін. Багацце сваё – залатоўкі – ён большай часткай атрымаў у спадчыну ад бацькоў, часткова сам зарабіў, працуючы ад цямна да цямна разам з жонкай, са сваімі сынамі і нявесткамі. Зробленыя грошы селянін складаў у гліняны гарлач і хаваў яго так, што ніхто з сямейнікаў не здагадваўся, дзе ляжаць грошы. Пацешыцца на адзіноце залатымі гузічкамі – і зноў схавае. А калі прыслабеў і адчуў, што смерць стаіць за плячамі, аплёў гарлач дротам, засмаліў і кінуў яго на дно самага глыбокага ў вёсцы калодзежа. Калі ляжаў ужо на Божай пасцелі, прыйшлі да яго сыны на размову і развітанне.

- Татачка, а што ты нам даеш у спадчыну? Як і на якія сродкі загадаеш жыць? – пачалі пытацца ў яго.

- Мы шчыра працавалі, усе заробкі аддавалі табе, ведаем, што грошай зароблена многа.

- Дзе нашы грошы, татачка?

Але адняло раптам мову ў селяніна, толькі невыразна паказваў ён рукой за акно то ў адзін, то ў другі бок.

Пасля яго смерці дзеці кінуліся шукаць багацце. Усю хату ператрэслі, увесь агарод і сад перакапалі – нідзе няма залатовак. А тут сабралася ўсё: падаткі на зямлю плаціць трэба, дзяцей у школе вучыць трэба, каня маладога ў гаспадарку трэба. Прыйшлося братам прадаць частку зямлі. Спадзяваліся, што новы ўраджай паправіць іх справы. Але спадзяванні былі дарэмнымі. Праз некалькі год разбрылася моцная і заможная сям'я па свеце ў пошуках лепшай долі. А гарлач у калодзежы зацягнула тванню, зруб згніў і разваліўся, і хутка стары калодзеж, каб не было якой бяды, засыпалі зямлёй…

Як вы, шаноўныя чытачы, назавяце такога галаву сям'і, які пазбавіў дзяцей і ўнукаў скарбу, зрабіў іх жабракамі? Неразумны – напэўна, самае бяскрыўднае слова.

Але мы, беларусы, ужо шмат год хаваем скарб, які цэлыя стагоддзі ззяў залатым россыпам у нашай краіне, саграваў душы і сэрцы людзей. Неразумнымі можна назваць тых, хто, валодаючы гэтым скарбам, не дзеліцца ім з іншымі. Гэта ў першую чаргу бацькі і дзяды, якія хаваюць яго ад сваіх дзяцей і ўнукаў.

- Неперспектыўная, непатрэбная, куды ты з ёю пойдзеш? – даводзяць яны сваім дзецям.

- З цяжкасцю ўладкавала свайго сына ў рускамоўны клас гімназіі, - хвалілася мая сяброўка ў сярэдзіне 90-х гадоў. І не разумела, што абакрала свайго сына, адарвала яго ад продкаў – спрадвечных беларусаў, з якімі сама была моцна звязана.

- Гавары правільна: не дзякую, а спасіба, - павучае ў дзіцячым садку бацька сваю дачушку, пазбаўляючы сваё дзіця звонкага дзядоўскага слова.

- Навошта мне беларуская мова? – здзіўляецца выпускнік. – Фізіка патрэбна, буду дома рамантаваць электраправодку. Інфарматыка спатрэбіцца. А напісаць я змагу і на рускай мове.

Ну як пасля такога практыцызму гаварыць пра любоў да Радзімы, пра грамадзянскасць, пра духоўныя скарбы?!

Праз родную мову адраджаецца душа чалавека, душа народа і нацыі. Без нацыянальнай мовы не можа быць нацыянальнай годнасці. А без нацыянальнай годнасці – кім мы пачуем сябе ў свеце? Расейцамі? Англічанамі? У свеце нас лічаць беларусамі. І Папа Рымскі Бенедыкт XVI нас, беларусаў, са святам віншуе на беларускай мове.

Некалькі разоў мне даводзілася выступаць на пілігрымках у Польшчы, прадстаўляць сваю парафію. Ксёндз А.Возьняк сказаў, каб я гаварыла па-беларуску, а ён будзе перакладаць. Тады я зразумела, як гэта важна – несці іншым сваю мову, сваю годнасць.

Вельмі мала гадзін на вывучэнне роднай беларускай мовы адводзіцца ў пачатковай школе, няшмат і ў сярэднім звяне. Зусім мала гадзін адведзена на вывучэнне твораў беларускіх аўтараў. Але мы гэта не можам змяніць. Кожны з нас, як беларус, як грамадзянін, можа змяніць сітуацыю ў сваім асяроддзі – у сям'і, у суседстве, навучыць сваіх дзяцей, унукаў роднай мове.

Аднойчы задала дзецям словы для перакладу . Адна дзяўчынка тут жа падняла руку:

- Аліна Лявонаўна, можна скарыстацца "званком сябру"? Мая бабуля цудоўна ведае беларускую мову!

Праз некалькі хвілін пытанне вырашана, бабуля дапамагла.

Навучыце сваіх унукаў і дзяцей цудоўным беларускім народным песням. Чытайце ім вершы беларускіх паэтаў. Яны таксама паглыбяць веданне мовы , узмоцняць любоў да Беларусі.

Пасля аднаго майго артыкула ў абарону роднай мовы патэлефанавала знаёмая:

- Я зразумела, што абядняю душы сваіх дзяцей, не чытаючы ім казкі па-беларуску. Сёння ж пайду ў бібліятэку!

"Каб любіць Беларусь нашу мілую…" Яе трэба проста любіць. Любіць яе гісторыю, культуру, людзей. І абавязкова – цудоўную, спеўную, звонкую родную мову.

*Каб любіць Беларусь нашу мілую,*
*Трэба ў розных краях пабываць.*
*Разумею цяпер,чаму з выраю*
*Жураўлі на Палессе ляцяць.*
*Што ім тыя нябёсы паўднёвыя,*
*Што ім пышны платанавы рай,*
*Калі клічуць іх далі сасновыя*
*І азёрны рабінавы край.*
*Сакавітыя пожні мурожныя*
*Не заменіш нічым і нідзе,*
*І зямлю, дзе сцяжыначка кожная*
*У прыветлівы двор прывядзе.*
*Каб любіць Беларусь нашу мілую,*
*Трэба ў розных краях пабываць.*
*Зразумееш тады, чаму з выраю*
*Жураўлі на Палессе ляцяць.*

**Максім Танк**

## РОДНАЯ МОВА

*З легендаў і казак былых пакаленняў,*
*З калосся цяжкога жытоў і пшаніц,*
*З сузор'яў і сонечных цёплых праменняў,*
*З грымучага ззяння бурлівых крыніц,*
*З птушынага шчэбету, шуму дубровы,*
*І з гора, і з радасці, і з усяго*
*Таго, што лягло назаўсёды ў аснову*
*Святыні народа, бяссмерця яго, –*
*Ты выткана, дзіўная родная мова.*

*Няма на зямлі таго шчасця і гора,*
*Якога б ты нам перадаць не магла.*
*Няма такіх нетраў, глыбокага мора*
*І гор, праз якія б ты не правяла*
*Мяне на радзіму, туды, дзе сягоння*
*Стаіць акрываўлены вораг з пятлёй*
*Над спаленай хатай, над родным загонам,*
*Над будучыняй і песняй маёй –*
*Над тым, што было і што век будзе вольным.*

*Народ пранясе цябе, родная мова,*
*Святлом незгасальным у сэрцы сваім*
*Праз цемру і годы змаганняў суровых.*
*Калі ж ападзе і развеецца дым,*
*І нівы васкросшыя закаласяцца, –*
*Ізноў прашуміш ты вясновым дажджом,*
*Ізноў зазвініш ты ў кожнай у хаце,*
*Цымбалам дасі іх сярэбраны гром*
*І вусны расквеціш усмешкай дзіцяці.*

# ТУТЭЙШАСЦЬ І КРАЁВАСЦЬ

**Ігар Пракаповіч**




У пачатку гэтага года рупнасцю пастаўскай раённай арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Скарыны з ініцыятывы Міхася Гіля пабачыла свет невялікая кніга вядомейшага краязнаўцы Мядзельшчыны, ураджэнца вёскі Гвоздавічы, што каля Камаяў, рупліўца беларушчыны, былога настаўніка Яські Драўніцкага "Тутэйшая". Яна прысвечана жыццю, творчасці і дзейнасці вядомай польскай, але найперш – тутэйшай, журналісткі і літаратаркі міжваеннага часу Гелене Ромэр-Ахенкоўскай. Яна была дачкой уладальнікаў маёнтка Каралінова мастака Альфрэда Ромэра і Ванды з Сулістроўскіх. Вядома, што з яе ініцыятывы ў Каралінове і ваколіцах былі адчынены беларускія школы для вясковыя дзяцей. Ёю напісаны шэраг апавяданняў пра жыццё мясцовых людзей. Гелена была замужам за Ахенкоўскім, але нядоўга. Дзяцей не мела. Жыла ў Вільні і ў Варшаве, пахавана ў Торуні (Польшча).

І гэта, бадай, усё, што было вядома да нядаўняга часу пра гэту неардынарную асобу. У сваёй жа кнізе Я. Драўніцкі падае багаты матэрыял, які сведчыць пра шырокі творчы дыяпазон пісьменніцы і яе шматгранную дзейнасць на ніве асветніцтва, адукацыі і літаратуры.

Увазе чытачоў "Шыпшыны" прапануецца ўрывак з кнігі "Тутэйшая", у якім аўтар спрабуе асэнсаваць творчы набытак Г. Ромэр-Ахенкоўскай у кантэксце паняццяў "тутэйшасць" і "краёвасць", якія маюць актуальнасць і зараз.



**Яська Драўніцкі**

## "ТУТЭЙШАЯ"? А МОЖА БЕЛАРУСКАЯ ПІСЬМЕННІЦА?

Гэлена Ромэр-Ахэнкоўская, "настаўніца беларускай басоты", як яе называлі дамарослыя прарасійскія русіфікатары і польскія нацыяналісты, марыла і траціла свае сілы і сродкі на тое, "каб дачакацца такой пацехі, калі кніжкі патрапяць пад сялянскія стрэхі". Малой радзімай яе было Каралінова Пастаўскага раёна Віцебскай вобласці. Жывучы сярод простых людзей, бачыла варожае стаўленне царскіх улад да мясцовага люду за прыналежнасць да каталіцкага веравызнання, бачыла эканамічны прыгнёт, русіфікацыю і паланізацыю. Атрымаўшы адукацыю, вывучыўшы гісторыю змагання мясцовай эліты з царызмам, у тым ліку і сваіх продкаў Ромэраў і Сулістоўскіх, і ў выніку кантактаў з аднадумцамі, якія змагаліся за незалежнасць, стала прыхільніцай "краёвасці", "тутэйшасці".

Што такое "краёвасць? Этымалогія тэрміна «краёвасць» зыходзіць ад тэрміна «Паўночна-Заходні край», якім царызм назваў захопленыя землі ў выніку падзелу РП. Карэннае насельніцтва, дваранства і інтэлігенцыя, гэтыя землі і менавалі проста як «край», які поўнасцю асацыяваўся з землямі былога Вялікага Княства Літоўскага, бо знешнія межы апошняга амаль супадалі са знешнімі межамі «Паўночна-Заходняга краю». Краёвасць выцякала з памяці

карэннага насельніцтва аб былым адзінстве гэтай тэрыторыі ў часы ВКЛ і імкнення захаваць і ўмацаваць тое адзінства і надалей.

Стрыжнем краёвай ідэалогіі была ідэя палітычнай нацыі: усе карэнныя жыхары гістарычнай Літвы (Беларусі), якія ўсведамляюць сябе «грамадзянамі Краю», належаць да адзінай нацыі незалежна ад этнічнага паходжання, культурнай і рэлігійнай прыналежнасці. Краёвасць–гэта рыса свядомасці грамадзян краю, які стаў Радзімай для беларусаў, літоўцаў, палякаў, яўрэяў, татар, рускіх, а вызначальнымі нацыянальнымі рысамі лічыліся патрыятызм і любоў да краю.



*Гелена Ромэр-Ахенкоўская*

Скірмунт Раман: "Сутнасць ідэалогіі «краёвасці» заключаецца ў тым, што ўсе, хто адчувае сябе «грамадзянамі Краю», належаць да адзінай супольнасці незалежна ад паходжання і ўжыванай мовы (польскай, літоўскай, беларускай ці рускай".

Людвік Абрамовіч: "Усе краёўцы ведаюць, адчуваюць, што тут - гэта наш край, а там - гэта або Расея, альбо Польшча. Усе яны мелі сваю геаграфічную салідарнасць, усе хочуць мець і любяць сваю зямлю, хаця яна бедная, няўрадлівая".

С. Рудовіч:"Краёвасць» узнікла на глебе рэчпаспалітаўскага патрыятызму, дзе адбывалася беларускае «культурнае назапашванне»: выданне беларускіх лемантароў, з'яўленне беларускамоўных твораў Я. Чачота, Я. Баршчэўскага, А. Рыпінскага, У. Сыракомлі, В. Дуніна-Марцінкевіча".

Краёвасць шырокіх народных мас, як супраціў любой асіміляцыі, супадала з паняццем "тутэйшасць".

Канстанцыя Скірмунт: "Тутэйшасць–гэта сувязь з роднай зямлёю, гэта патрыятызм... Толькі асвета на роднай мове гарантуе годнае супрацьстаянне русіфікацыі мас".

Ю. Бардах: «У вёсцы, перш за ўсё беларускай, там, дзе сустракаліся розныя мовы, веравызнанні, уплывы розных культур, «тутэйшасць» азначала форму адмовы ад пэўнага выбару, нежаданне прызнаць сваю прыналежнасць да таго або іншага этнасу. Была боязь, што такі выбар можа парушыць традыцыйныя формы сумеснага жыцця і прывесці да канфліктаў".

М.Рымантас:"Рэгіяналізм вышэй стаіць за нацыяналізм і аб'ядноўвае, яднае супольнасьць."

Такім чынам, "тутэйшасць" была рэакцыяй як супраць русіфікацыі, так і польскага нацыяналізму. Паняцце "тутэйшы" ў цэлым Я. Купала трактаваў пазітыўна.

–Хто ты гэткі?
–Свой, тутэйшы.
–Чаго хочаш?
–Долі лепшай.

**************************

Я не чыноўнік і ня граф, ня князь,
Таксама–я ня турак і ня грэк,
І нават не паляк і не маскаль,
А проста я тутэйшы чалавек.

**********************

Калі ж каго бы стрэліла спытаць:
Якой ты веры? Ужо ж бы так адсек:
Тутэйшай веры я, каб не салгаць,
Бо я і сам тутэйшы чалавек!

******************************

А як завуць край гэты родны мой–
Забыўся ўжо праз свой прыгон і здзек,
Мабыць, забраны, ці тутэйшы ён,
Я ж сын яго–тутэйшы чалавек!

******************

А як памру, то буду спаць, як пан,
І сніць, што я тутэйшы чалавек!

Паэт дбаў пра нашу незалежнасць:"Наша незалежнасць соллю ў ваччу для нашых суседак—Польшчы і Расіі, бо і адна, і другая хацелі б нашу незалежнасць утапіць у лыжцы вады сваёй."(Я Купала, газета «Беларусь». 28 лістапада 1919 года, артыкул «Незалежнасць»).

Калі паэт заўважыў, што не пра незалежнасць і свабоду мараць некаторыя нашчадкі колішняга магутнага Вялікага княства Літоўскага, што горды і вольны народ ператвараецца ў прыслужнікаў-рабоў, у роспачы напісаў трагікамедыю "Тутэйшыя",



*Сядзіба Ромэраў у Каралінове*

ўпартасць, настойлівасць, з якой яны абараняюць каштоўнасць сваёй тоеснасці: веры, роднай мовы, звычаяў, маральнасці. Падмеціла крэсавую ментальнасць. Тутэйшы чалавек стойка бароніцца ад кожнай навізны, хаця яна была б яму карыснай, бо "не прывыкшы", а пераносіць без наракання кожную нядолю, бо "прывыкшы".

Як жа выглядае ў кантэксце вышэйсказанага асоба і дзейнасць самой нашай зямлячкі Гэлены Ромэр-Ахэнкоўскай?.

Гэлена Ромэр-Ахэнкоўская была паліглотам. Для напісання навуковых прац паслугавалася французскай і нямецкай мовамі, з сялянамі размаўляла па-беларуску, з рускімі чыноўнікамі па-расейску, а працуючы ў польскамоўным часопісе "Віленскі кур'ер", змяшчала ў ім свае допісы і творы на мове часопіса. Аналізуючы жыццё і творчасць Гэлены Ромэр-Ахэнкоўскай, я прыйшоў да высновы, што маюцца ўсе падставы аднесці яе да беларускіх польскамоўных пісьменнікаў.

Па-першае, усё яе свядомае жыццё было звязана з Каралiновам, (зараз Беларусь), толькі на два гады перад смерцю з-за пагрозы ссылкі эмігрыравала ў Торунь.

Па-другое, матэрыял для сваіх літаратурных твораў чэрпала з жыцця мясцовага люду–беларусаў. Апаненты мне могуць запярэчыць: пісала ж яна на польскай мове. А хіба няма беларускіх пісьменнікаў, якія пішуць на другіх мовах? Абсурднасць факту непрыняцця яе творчасці да нашай культурнай спадчыны з-за мовы паспрабую раскрыць сваімі развагамі пра літаратурную творчасць. Па маім меркаванні, літаратурная творчасць–гэта працэс, а напісаныя творы–вынік яго. Калі твор адлюстроўвае нашы беларускія рэаліі і створаны нашым земляком, то гэта з'ява беларускай культуры. Мова толькі інструмент, хаця і спецыфічны. У свой час за "тутэйшасць", чытай, за беларускасць, творчасць Гэлены Ромэр-Ахэнкоўскай цалкам замоўчвалі польскія і рускія асімілятары. Па-мойму, час паправіць гэту несправядлівасць ізнайсці месца ў скарбонцы нашай беларускай культуры для яе сціплага ўкладу.

у якой адлюстраваў дзве плыні тутэйшых: нацыянальных здраднікаў-прыстасаванцаў і сапраўдных свядомых патрыётаў

А. Мальдзіс раскрывае генезіс паняцця "тутэйшыя": "…Чалавек…найперш быў патрыётам сваёй хаты, потым–патрыётам сваёй вёскі, затым–патрыётам сваёй мясцовасці, межы якой акрэсліваліся сваім царкоўным ці некалькімі прыходамі, кірмашом, дзе спатыкаўся з родзічамі. Карацёй кажучы, гэта наваколле, дзе жылі "тутэйшыя"….Гэты тэрмін акрэслівае першапачатковую, не зусім асэнсаваную належнасць да нечага."

Гэлена Ромэр-Ахэнкоўская таксама звярталася да праблемы "тутэйшасці". У апавяданні "Тутэйшы" паняцце "тутэйшы" аўтарка тлумачыць наступным чынам:"Азначэнне "тутэйшы"перад вайной было адзінай характарыстыкай, якой чалавек Віленшчыны ідэнтыфікаваў сябе.

–Хто ты,–пыталіся,– паляк?

–Не. Я з простых.Тутэйшы.

–Значыць, беларус?

–Ды не, я не рускі, а католік, я тутэйшы.

Слова гэтае ўтрымлівае ў сабе нейкае кароткае і моцнае прызнанне прыналежнасці да зямлі, краявідаў, атачэння. Тутэйшы. Тут народжаны, жывучы і тут паміраючы. У гэтай "старане" …Тутэйшы, ўрослы ў найбліжэйшае акружэнне і ваколіцу."

Трапна апісаны пісьменніцай некаторыя рысы тутэйшых. З аднаго боку, быццам крыху наіўныя. адсталыя, неадукаваныя, а з другога боку, годныя здзіўлення за

## Мясцовыя гісторыі



**Ігар Пракаповіч**

# ЗАЧАРАВАНЫЯ КОНІ

Паміж вёскамі Куніцкія і Бартасоўшчына ляжыць таямнічая мясціна, дзе з людзьмі часта адбываюцца розныя нечаканыя здарэнні. Калі ідзеш полем, то нічога, усё як і заўсёды, а вось як увойдзеш у лясок і дарожка пачынае пятляць паміж узгоркаў, лагчын і балотцаў, то ўжо так і чакай, што нешта здарыцца. Найчасцей трапляюцца тут падарожнікам коні. Прыгожыя і дагледжаныя, з’яўляюцца яны ціха і нечакана з-за паварота, падыходзяць блізка, махаюць густымі грывамі і хвастамі, разварочваюцца, лёгка бягуць наперад, спыняюцца, чакаюць, тады зноў імкнуцца кудысьці. Яны такія прыгожыя і, здаецца, прыручаныя, што міжволі, зачараваны і забаблены, ідзеш за імі, зусім не заўважаючы, куды вядуць цябе гэтыя коні. І так бывае, што ўвесь вечар, а то і ўсю ноч ходзіць чалавек за тымі коньмі, спрабуе іх злавіць, а ніяк гэта не ўдаецца.

Толькі потым, як ачомаецца, як знікнуць тыя коні, пачынае падарожнік блукаць, шукаць выйсце з лесу. Бывае, што кружыць на адным месцы, а не заўважае таго. А калі ж выйдзе з лесу і вернецца дамоў, то яшчэ колькі часу не можа ўсвядоміць, дзе ён і што з ім. Ходзіць нібы хворы, часта забываецца на ўсё, а то ўпадае ў нерухомую задуменнасць. Стаяць у чалавека прад вачыма тыя коні. Вабяць, завуць за сабой… Куды?...



*Малюнак Ганны Пракаповіч*



**Шыпшына**
*Выданне Пастаўскай раённай арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны*

Адказны за нумар: Наталля Пракаповіч
Карэктар: Аліна Латыш
Адрас: 211875, горад Паставы, вул. Паркавая, 52.
Тэл.: 02155-4-44-75

Вёрстка: Ігар Пракаповіч
*Рэдакцыя можа не падзяляць думкі аўтараў друкаваных матэрыялаў*
*Надрукавана на абсталяванні сяброў, распаўсюджваецца дарма*
*Наклад 100 асобнікаў*